# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1277) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 17 ЖНІЎНЯ 1980 г. ЦАНА 2 зл.



*Па роднай зямлі. Від на Буг з замкавай гары ў Мельніку. Фота Міхася Шаховіча.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Хто ведае, ці сёння гэтая загубленая ў пералесках маленькая вёсачка магла б ганарыцца 350-гадовай гісторыяй, калі б не помста за нейкую крыўду ці мо

# Войнаўка

звычайная людская нядбайнасць. Бо гэта ж у 1631 годзе падданыя старосты ваўкавыскага Пятра Войны, што сядзелі ў Войнаўцах на рэчцы Палічнай, зацерушылі незнарок агонь або і наўмысна падпалілі Белавежскую пушчу. Сталася гэта, відаць, у пару для пажару спрыяльную, бо выгарэў значны абшар пушчы ва ўрочышчах Ліпнікі і Перадзельніца. Пачалася судовая цяганіна і ў яе выніку маем цяпер дакументы пра тадышнюю Палічну Войнаўскую — сённяшнюю Войнаўку. З іх вынікае, што ўжо ў тыя часы гэта была прыватная ўласнасць і такой засталася фармальна да 1861 года, калі царскім указам яе „выпустылі на волю“, а фактычна цалкам залежала ад патомных уладальнікаў суседняга „двора“ ў Ядлоўцы Вальнцэвічаў аж па верасень 1939 года. Водгулле паншчыны тут яшчэ даволі жывое ў мясцовай традыцыі.

Адзін з найстарэйшых жыхароў Войнаўкі — 88-гадовы Сяргей Саевіч расказвае, што яшчэ яго дзед і іншыя старэйшыя людзі згадвалі пра цэлы шэраг запрудаў на рэчцы Палічнай, што працякае і сёння каля Войнаўкі. Па ёй млыны і фолюшы стаялі ва ўрочышчах Замлінне, Кузьмоўшчына, Марчучка, Озэрыско. Каларытнай з'явай у колішняй вёсцы была карчма. Войнаўку абселі аж дзве такія „установы“ і ў іх засяроджвалася ўсё тадышняе „грамадска-культурнае“ жыццё. Стаялі яны насупраць сябе пры „гостыньці“ з Войнаўкі ў Орлю ва ўрочышчы Мэляніна. І быў заведзены такі парадак: хто ішоў ці ехаў па гэтай дарозе, завітваў у тую карчму, якая стаяла яму па правай руцэ. Калі нехта пераступіў парог карчмы, што была злева, зараз жа прыбягаў карчмар „справа“ і забіраў „свайго“ кліента ад канкурэнта. Што ж, не адно ў народнай песні гаварылася: „Скуль ны еду, скуль ны йду — корчмы ны мынаю...“ Карчма была праўдзівай згубай для тадышняга селяніна: у ёй прападала ўсё тое, што чалавеку ўдавалася выгадаваць ці прыдбаць. На кварту гарэлкі, для „моцы“ настоенай карчмаром на тытунёвых карэннях, мужчыны патаемна ад сям'і выносілі які адно завёўся грош, збожжа, лён — што толькі браў карчмар — а той браў усё.

Тутэйшыя палеткі: Гнілiся, Доліна, Зувэрх, Протідому, Штыры Загоны на пачатку нашага стагоддзя былі падзелены на 16 участкаў (па 22 дзесяціны кожны) і тады „сядзелі“ на іх сяляне з такімі прозвішчамі: Андросюк, Беля-

(Працяг на стар. 3)



*Удзельнік Вялікага Кастрычніка і баец Чырвонай Гвардыі Сяргей Саевіч за свае 88 год пражыў нямала, але і цяпер, пасля трагічнай смерці сына, як можа, дапамагае нявестцы і ўнукам у гаспадарцы.*

IX З'ЕЗД БГКТ

# МЫ САМІ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ ВЕЛЬМІ МНОГА...

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ВАЛЯНЦІНЫ ЛАСКЕВІЧ — ДЭЛЕГАТА З БЕЛАСТОКА)**

У сваім выступленні В. Ласкевіч — намеснік старшыні гуртка БГКТ у Беластоку і член камісіі культуры ГП БГКТ — засяродзіла ўвагу на працы свайго гуртка і некаторых праблемах культурна-асветнай дзейнасці ва ўсёй нашай арганізацыі.

Беластоцкі гурток працуе ў добрых умовах для вядзення ўсебаковай дзейнасці, мае свой клуб. У гуртку 740 членаў, у тым ліку 660 чалавек ва ўзросце да 30 год. Узрост членаў, іх прафесіянальная падрыхтоўка і зацікаўленні вызначаюць характар працы гуртка. Ен намагаецца весці разнабаковую дзейнасць, хоць не ўсё ўдаецца яму так, як хочацца. На высокім узроўні праходзяць урачыстасці ў гонар дзяржаўных свят і гістарычных гадавін, сустрэчы з пісьменнікамі, працаўнікамі навукі, культуры і асветы, вечары з пенсіянерамі, танцавальныя вечарыны, экскурсіі і іншыя мерапрыемствы. Тут актыўна і ахвярна працуюць харавы і тэатральны калектывы. Выступленні беластоцкіх „Каласкоў“ і пастаноўкі самадзейных акцёраў з Беластока шырока вядомы не толькі ў нашым ваяводстве. Абодва калектывы амаль кожны год займаюць высокія месцы на фінальных аглядах конкурсаў „Беларуская песня“ і тэатральных калектываў. Але ў той жа час гуртох вельмі непакоіць тое, што ў абодвух калектывах удзельнічаюць амаль тыя самыя людзі, не прыбывае



новых, калектывы не разрастаюцца. Неабходна таксама стварыць танцавальны калектыў. Хоць у гуртку ёсць свая багатая бібліятэка, але чытальніцтва развіваецца тут слаба, дагэтуль ніхто з Беластока не прыняў удзелу ў чытальніцкім конкурсе. Нягледзячы на мноства членаў гуртка, якія іграюць на розных інструментах, ніхто з іх не ўдзельнічаў у музычным конкурсе БГКТ. Неабходна таксама развіваць і ўдасканальваць штодзённую працу з дзецьмі, увесці для гэтага адпаведныя, цікавыя формы, заахвоціць да ўдзелу ў тых конкурсах, якія арганізуе для дзяцей ГП БГКТ. Гурток у сваёй працы сустракаецца з шэрагам цяжкасцей, найважнейшае з іх тое, што няма спецыяліста па музычных справах, які б быў знаўцам беларускага меласу. Усе гэтыя недахопы і цяжкасці бачыць кіраўніцтва гуртка і будзе мабілізаваць усіх беластоцкіх бэгэкатоўцаў на актыўную працу.

— Вялікую ролю ў культурна-асветнай дзейнасці ўсёй нашай арганізацыі адыгрываюць конкурсы, што праводзіць ГП БГКТ, — падкрэсліла В. Ласкевіч. — Як сцвярджаюць многія, конкурс „Беларуская песня“ — гэта сапраўдны фестываль беларускай песні. У рэпертуары песеннага і тэатральнага конкурсаў выдатнае месца займаюць мясцовыя народныя песні, абрады, звычаі, традыцыі. І якраз гэта мы павінны асабліва пашыраць і шанаваць. Аднак

(Працяг на стар. 4)

# Войнаўка

(Працяг са стар. 1)

вец, Блізнюк, Варанчук, Гудковіч, Лукашук, Найбук, Петручук, Саевіч, Цяцёрка, Ярмошук. Людзей прыбывала і сямейныя падзелы давялі да таго, што праз некалькі дзесяткаў год даволі шырокія пасля рэформы палеткі сталі вузенькімі шнурочкамі. На іх сякая-такая збажына ці бульбіна расла толькі на сярэдзіне, на дзвюх скібах „складу", а рэшта — гэта былі пустыя „барозны".

Гэтая беспрасветная галеча не змянілася і пасля першай сусветнай вайны. І людзі хіліліся да прагрэсіўнага руху. Паўстаў тут гурток Беларускай сялянска-рабочай Грамады. Належалі да яго браты Іван і Якім Беляўцы, Іван сын Ерамея Белявец, браты Іван і Рыгор Варанчукі (абодвух гітлераўцы закатавалі потым у Беластоцкай турме), Павел Саевіч і іншыя. Мікіта Гудковіч і Якім Белявец былі на славутым грамадскім з'ездзе ў Старым Беразове, які разграміла паліцыя.

У часе гітлераўскай акупацыі ў Войнаўцы наступіў адзін з тых выпадкаў трагедыі, якую фашыстам удалося разыграць на гэтай ускраіне Белавежскай пушчы. У Войнаўкў часта наведваліся савецкія партызаны з атрада, што нейкі час меў свае прыстанішча ў 6 і 7 кварталах пушчы. У сяле вельмі актыўнымі партызанскімі сувязнымі былі Сямён Лукашук і Міхал Шэшка. Аднойчы на Войнаўку наляцеў атрад карнікаў са спецыяльнай нямецкай часці па барацьбе з партызанскім рухам, што базавала ў Белавежы. Абодвух сувязных фашысты расстралялі там, дзе іх засталі: Лукашука на сенакосе, а Шэшку — на сестрыным падворку. Потым выявілася, што ў партызанскі атрад фашысты закінулі шпіёна і ён давёў да згубы гэты і некалькі іншых партызанскіх атрадаў, а таксама да знішчэння ўсіх тых людзей з навакольных сёлаў, пра якіх шпіёну стала вядома, што яны супрацоўнічаюць з партызанамі або прыхільна адносяцца да іх.

Сённяшняя Войнаўка — гэта ціхае і працавітае сяло. Адсюль пайшло ў розныя гарады краіны шмат маладых людзей. Некаторыя з іх закончылі вышэйшыя школы — С. Петручук працуе лекарам, М. Кушчук стаў настаўнікам, многія — сярэднія прафесіянальныя школы. Але сяло не апусцела, не заняпала, людзі тут дбаюць пра свае гаспадаркі, стараюцца раўняцца з такімі моцнымі гаспадарамі, як Іван Варанчук ці Васіль Цяцёрка.

Уваходзячы ў цяперашні час, Войнаўка не растраціла самага каштоўнага — трывалай свядомасці непарыўнай сувязі свайго сённяшняга з мінулым. Гэта відаць. як толькі трапляеш на яе ладную брукаваную вуліцу. Многія, нават нядаўна пабудаваныя, дамы ўпрыгожаны багатай рэззю па дрэву, жанчыны з хаты ў хату ткуць дываны і пасцілкі ў традыцыйныя беларускія ўзоры, жывуць тут шматлікія творы вуснай народнай творчасці, захаваліся каларытныя абрады і звычаі.

Войнаўку шукайце ў гміне Дубічы Царкоўныя! Варта.

**М. Гайдук**
Фота аўтара



*Параскева Саевіч нягледзячы на свае 86 год не абмінае ніводнага артыкула ў „Ніве". Ад пачатку выхаду нашага часопіса, улавіўшы вольную хвіліну, чытае яго заўсёды ўголас, каб мог пачуць і муж Сяргей Саевіч — любіцель „Нівы".*



*Маланні Кавальчук цяпер ужо 79 год. Амаль усё сваё жыццё праслужыла парабчанкай у „двары" Вальнцэвічаў у Ядлоўцы.*

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА IX

**Польскія вершы.** З польскай спадчыны захавалася 22 вершы Купалы. Іх чарговасць у сшытку наступная: „Leć piosenko", „W noc majową", „Jesień", „Ze wspomnień", „Białorusin", „Nie dla was", „Wiosna", „Tułacz", „O zmroku", верш без загалоўка — „Przestańcie marzyć o sławnej przeszłości", „Wróci wiosna, wróci", „Miłuję Cię, ziemio", „Hej, w świat", верш без загалоўка „z bólem wieczystym w swych mrzonkach zamknięci", „Z motywów jesiennych", „Z piosenek sieroty", „Jakby wiosna", „Wczoraj było", „Ziemio", „Fragment", верш без загалоўка „sny ułudne, nierozbudne", верш без загалоўка „kto z was, druhy, bracia moi".

Усе вершы можам змясціць у некалькіх тэматычных групах. І так вершы: „Jesień", „Z motywów jesiennych" супрацьстаўляюцца вершам: „Wiosna", „Jak by wiosna", „Wróci wiosna". Многа агульнага знаходзім у вершах з узмоцненым грамадскім элементам: „Miłuję Cię, ziemio", „Tułacz", „Ziemio", „Ze wspomnień". Зрэшты, грамадская праблематыка выступае амаль ва ўсіх польскіх вершах Купалы. Толькі некалькі тэкстаў утрымана ў настроі выключна асабістых інтымных перажыванняў. Ва ўсіх іншых вершах асабісты элемент хаця і выступае, то ўсё ж такі найчасцей служыць для падкрэслення грамадскіх праблем. Гэтае ж самае можна сказаць і аб частых пейзажных сцэнах, якія амаль заўсёды выконваюць службэбніцкую ролю ў адносінах да грамадскіх спраў.

Верш „Leć piosenko", які займае ў сшытку першае месца, быў, бадай. адным з найбольш ранніх твораў Купалы. Праяўляецца ў ім выразная няспеласць ідэйных інтэнцый маладога паэта. Пастулат адносна ўстанаўлення гармоніі ў грамадстве ўтрыманы тут у духу наіўнага салідарызму паміж супрацьстаўнымі грамадскімі класамі.

> Możni, biedni, kalecy
> Ręce sobie podadzą.
> Nienawiścią szakala
> Spotwarzać się nie będą.
> Znicz miłości rozpalą
> Stół zbratania obsiędą.

Будучае гэтае ў вачах паэта мае характар ідэалу, у якім кожны задаволіць свае патрэбы:

> Znajdzie chleba zgłodniały,
> Odzież znajdzie obdarty.
> Chatkę znajdzie bezdomny,
> Pomoc znajdzie sierota.

У гэтым вершы выступае казачны прыём татальнай перамогі дабра над злом, вера ў тое, што наступіць у грамадстве „Залатая эра". Відаць, малады паэт даволі хутка зразумеў беспадстаўнасць сваіх наіўных ідэй, бо ў далейшых вершах больш ужо да іх не вяртаўся.

### З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

# Неба і чалавечы лёс

Ноч. Ціхамань. Неба аж іграе мільёнамі зор, паміж якімі, шырока ўсміхаючыся, у святлістым арэоле плыве месяц. Галава сама задзіраецца ўгору і блукае вачыма па зорных агародах. Мільгаюць розныя думкі і ў галаву ціснуцца метафізічныя пытанні. Чаму? Як? Дзе? Што? Пытанні, пытанні, пытанні. Хто першым заўважыў, што на маладым месяцы намнога лепш растуць грыбы, чым на старым? І ўвогуле, што да гэтага мае Месяц? Дзе ён, а дзе Зямля? Што яму да лесу, у які мы ходзім па грыбы? Але аднак так ёсць. Людзі заўважылі гэта даўным-даўно.

Раптам, пранізаўшы святлістай дугою паўнеба, паляцела ўніз „зорка" і згасла. — О, ужо нехта памёр, — пачуеш. У народным вераперакананні кожны чалавек мае сваю зорку, якая гарыць у небе. Запальваецца яна з нараджэннем чалавека і гасне з яго смерцю. На пытанне, дзе знаходзяцца зоркі і як яны прымацаваны, у розных кутках Беласточчыны, але толькі сярод старых людзей, можна было пачуць больш-менш такі адказ: гэта запальваемыя Богам свяцілы, якія вісяць на прымацаваных да Неба ланцугах. А тое, што адна гарыць ярчэй, а іншая не, што адна большая, а наступная толькі-толькі — гэта не прычына ў розніцы адлегласці, а ў рознатыпнасці людзей. Ёсць жа і высокія, і нізкія, і разумныя, і менш.

А зоры так і трымцяць у начным Небе. — Куры будуць добра несціся, — гавораць людзі, калі гэтак здарыцца ў ноч з Куцці на Каляды. А вунь нехта заўважыў, што на Небе цягнуцца светлыя доўгія пасмы. Часта іх называюць стаўбамі. Паводле людзей прадказвалі яны вайну.

Неба, асабліва начное, заўсёды было нейкай таямнічай кнігай, дзе імкнуліся ўсе людскія лёсы. Заўсёды імкнуліся рознымі спосабамі хаця прыадкрыць ражок недаступнага зямному чалавецтву. Бытавала і бытуе перакананне, што з нараджэннем чалавека надзяляецца яму акрэслены лёс. І ўсё, што потым здарыцца з ім у жыцці, гэта яго вынік. — Лёс такі, — гавораць. Адным словам, чалавек не меў ніякага ўплыву на кіраванне сваім жыццём. Усё, што здарыцца, незалежна ад яго. І таму так моцна імкнуўся чалавек да пазнання свайго жыцця. Адгэтуль і розныя варожбы, тут і гараскопы.

Нарадзілася дзіця. Бацькі задумаліся. Якім будзе яго жыццё? Што яго чакае? Згодна з вераваннем людзей чалавечы лёс быў узалежнены ад часу нараджэння — які дзень, пара дня, пара года і пад якой планетай. Кожная планета была носьбітам розных рыс характару. І не заўсёды прадказаны лёс быў радасным для бацькоў. А вось адзін са спосабаў прадказвання чалавечага лёсу. Залежны ён ад дня нараджэння.

**Нядзеля** (планета Сонца). З'яўляецца яна планетай засухі і спёкі і народжаныя пад ёю будуць прыгожымі ды прыстойнымі бландзінамі з яснымі вачыма. высокім лобам ды здаровым, поўным мудрасці, голасам. Пачаткова будуць схільнасці да меланхоліі, але жыццё поўнасцю яе пераможа.

**Панядзелак** (планета Месяц). Людзі будуць круглатварымі з поўнай фігурай. У жыцці справядлівыя і згодныя, з мяккім сэрцам. Верныя прыяцелі і сябры. Патрапяць хутка наладжваць знаёмствы.

**Аўторак** (планета Марс). Народжаныя пад гэтай планетай будуць упартымі задзёрамі. У сужыцці цяжкія. Назіраюцца схільнасці да хлусні, зладзействаў, скандалаў, помсты. Халодныя на крыўду іншых. Знешне прыгожыя, з чорнымі валасамі, арліным носам, ды вялікім лобам. Вялікі ўплыў мае на іх асяроддзе. Калі апынуцца ў добрым, дык усе адмоўныя рысы набяруць дадатнасці. І народжаныя пад гэтай планетай могуць стаць вялікімі людзьмі.

**Серада** (планета Меркурый). Характар жаноча-мужчынскі. Ёсць дзве крайнасці — або будзе здрадніцкім і мсцівым, або мудрым і справядлівым. Наогул аднак гэта людзі нястойкія.

**Чацвер** (планета Юпіцер). Народжаныя пад ёю будуць людзьмі шчаслівымі, справядлівымі і добрымі сябрамі. Наогул яны смелыя, у жыцці спакойныя і лагодныя. Сярод іншых выдзяляюцца белымі і рэдкімі зубамі, невялікім носам. Ростам невысокія.

**Пятніца** (планета Венера) народжаныя будуць мудрымі, жартоўнымі. Будуць характарызавацца цягай да навукі і ўпартасцю. Сямейнае жыццё будзе праходзіць у каханні і шчырасці. Унутрана аднак будуць адчуваць нейкую боязь, якая можа піхнуць да нянавісці.

**Субота** (планета Сатурн) — планета холаду ды засухі. Людзі, пад ёй народжаныя, будуць неспакойнымі ды поўныя меланхоліі. Гнеў, зайздрасць, ахвота ўзбагачэння коштам другіх — гэта галоўныя рысы. Заглушаць яны ўсё добрае, што праяўлялася ў іх у дзяцінстве.

Гэта адзін з прыкладаў уплыву Неба на жыццё чалавека. Пабудова вельмі простая. Ужо старажытныя людзі ведалі сем планет. І проста спалучылі іх з днямі тыдня, тым больш, што падыходзілі па колькасці.

**Міхась Шаховіч**

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ХТО НАЙБОЛЬШ

Вечарам 16 ліпеня затрымаліся мы на пункце скупкі малака ў Пасечніках Вялікіх у Гайнаўскай гміне. На пункце працуе ўжо другі год Аляксей Галёнка, сын Мікалая. Малако прывозіць сюды 70 дастаўцаў з Пасечнікаў Вялікіх, Ягаднікаў, Парыева і Барка. Ад 24 мая раніцай і вечарам. Усяго разам збіраецца 2 тысячы літраў сырадою, які адвозяць на гайнаўскі маслазавод і сыраварню. У сярэднім малако мае 3,6% тлушчу. Усе спорныя справы, калі яны бываюць, неадкладна, „ад рукі", вырашае шасціасабовы камітэт дастаўцаў пад старшынством Мікалая Галёнкі, сына Фёдара і Анастасіі, з Пасечнікаў Вялікіх (ён таксама член прафсаюза пры гайнаўскім малочным прадпрыемстве).

А цяпер вернемся да пытання: хто тут найбольш прадае малака дзяржаве? Вось іх прозвішчы: Мікалай Галёнка, сын Мікалая і Анастасіі (прадае ён звыш 100 літраў малака ў суткі), Мікалай Галёнка, сын Савы (80 літраў), Уладзімір Галёнка, сын Барыса (звыш 70 літраў), Уладзімір Красько, сын Андрэя (каля 70 літраў), Мікалай Красько, сын Лук'яна (60 літраў) і Уладзіслаў Галёнка, сын Міхала (каля 60 літраў) — усе яны з Пасечнікаў Вялікіх і Юры Грош з Парыева (каля 90 літраў малака).

Усе перадавыя жывёлаводы: Мікалай Галёнка, сын Фёдара і Анастасіі, Мікалай Галёнка, сын Савы, і Уладзіслаў Галёнка, сын Міхала, маюць зручныя новыя і мадэрнізаваныя аборы з падключанай вадою і электрадаілкі. На пасбішчах маюць электрычныя пастухі і загарадкі для кватэрнага выпасу. Травы на зялёных угоддзях тут удосталь. На зіму земляробы нарыхтоўваюць дастатковую колькасць уласных кармоў: сена, сіласу, кармавых буракоў, бульбы. Карацей кажучы, гадоўлю кароў абапіраюць на ўласных кармавых рэсурсах. Вядучыя жывёлаводы маюць 9 і больш дойных кароў, а прытым па некалькі штук маладняку.

### УЗНАГАРОДЫ ДЛЯ НАЙЛЕПШЫХ

У Дубіцкай гміне вёскаІсток заняла першае месца ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная" (ва ўзнагароду яна атрымала 30 тысяч злотых), другое месца заняла вёска Ягаднікі і трэцяе — Стары Корнін. Жыхары вёскіІсток маюць найлепшыя поспехі ў жывёлагадоўлі, куплі мінеральных угнаенняў і грамадскіх пачынах. Яны таксама найбольш паклапаціліся пра эстэтычны выгляд вёскі. Ёсць тут святліца (у ёй тэлевізар) і пункт дапаможнага продажу. Шматлікія вяскоўцы памалявалі дамы і платы (цяпер тут многія паставілі новыя агароджы). Функцыю солтыса тут паспяхова выконвае Анна Кердэлевіч.

Апрача таго, сёлета званне майстра сельскагаспадарчай прадукцыі прысвоена 6 сялянам і званне прыкладнага гаспадара — сямі земляробам.

З нагоды свята Адраджэння былі ўзнагароджаны: залатым значком „Заслужаны для Беласточчыны" Васіль Цяцёрка — солтыс вёскі Войнаўка, і сярэбранымі значкамі „Заслужаны для Беласточчыны" Юры Стэпанюк — ляснічы лясніцтва з Чэхаў Арлянскіх і Рыгор Герцун — перадавы гаспадар вёскіІсток.

Значкі „Заслужаны дзеяч ФАН" атрымалі Ірэна Дарашук з Дубіч Царкоўных і Рыгор Трафімюк з Грабаўца.

Сярэбраныя медалі „За заслугі для пажарніцтва" атрымалі члены добраахвотнай супрацьпажарнай каманды ў Тафілаўцах: Ян Бахмат, Ян Леанюк і Павел Петручук.

Дыпломы за пясляховае выкананне грамадскіх пачынаў з нагоды 35-годдзя ПНР атрымалі сяляне Уладзімір Дзік і Сцяпан Філіповіч — усе з вёскі Пасечнікі Малыя (яны найбольш папрацавалі пры рамонце дарогі з Пасечнікаў Малых у Вілюкі). **(яц)**

### ВЫБОІСТАЯ ДАРОГА

Усё больш выбояў, або інакш ямак і ўхабін, на гравейнай дарозе з Кляшчэляў у Палічну. Лета, як вядома, не скупіць дажджу. Пясочныя і жвіровыя дарогі хутка разбіваюцца. Так і на гэтым 8-кіламетровым адрэзку. Пара пусціць на дарогу машыну, якая б яе выраўняла (называюць яе раўняркай). Аўтамашынай па дарозе з Кляшчэляў у Палічну ўжо дрэнна ехаць. У шматлікіх месцах неабходна змяншаць скорасць да нуля.

**І. Н.**

# Без задняй думкі

## Званок самому сабе

Павучальную гісторыю расказала нядаўна „Литературная газета". Дырэктар Дзяржаўнага навукова-даследчага праектнага інстытута лакафарбавай прамысловасці В. А. Бярэзін загадаў устанавіць пад верхам свайго стала кнопку. Як пазней тлумачыў галоўны энергетык інстытута, была яна ўключана ў ланцуг падачы сігнала тэлефоннага апарата. Для якой мэты — энергетык не ведаў.

А вы, — звяртаецца газета да чытачоў, — ці ведаеце, з якой мэтай пад верхам стала ўстанаўліваецца кнопка, націснуўшы якую, можна выклікаць званок тэлефона, які стаіць тут жа, у цябе на стале? — і тлумачыць:

У кабінеце дырэктара ідзе нарада. Раптам чуецца тэлефонны званок. Дырэктар нездаволена моршчыцца... Аднак абанент упарты, даводзіцца ўзяць трубку.

— Так?... А, гэта ты, Пётр Спірыдонавіч? — Усе прысутныя чуюць імя асобы з міністэрства, настолькі адказнай, што яны і ўявіць сабе не маглі, быццам іх дырэктар з гэтай асобай „на ты". Між тым размова працягваецца.

— Так... Раімся... — змучана гаворыць дырэктар. — Ты ж ведаеш, Пётр Спірыдонавіч, я заўсёды гатовы выканаць тваё ўказанне, але ж народ у нас... Ты ж ведаеш які... — Дырэктар кідае суровы погляд на прысутны ў яго кабінеце „народ". — Усе вельмі разумныя сталі — крытыкуюць: гэта ім не так, ды тое не так... Усіх угаварваць даводзіцца... Так... Але будзем працаваць, Пётр Спірыдонавіч, будзем працаваць... Будзем тлумачыць... Караць? — Зноў вымоўны погляд на прысутных. — Ды я не ліберальнічаю, але ж ты ведаеш... Добра, Пётр Спірыдонавіч, будзем дзейнічаць!

Адзінае, чаго не ведаюць прысутныя, — што ў сапраўднасці адбываецца не дыялог, а маналог дырэктара, гэткая акцёрская імправізацыя з „пустой" тэлефоннай трубкай. „Званок" жа Пятра Спірыдонавіча быў выкліканы дырэктарам шляхам націскання той самай кнопкі, аб прызначэнні якой дагэтуль не здагадваўся галоўны энергетык інстытута.

Вядома, званок да самога сябе толькі адзін з прыкладаў „вынаходніцкай" дзейнасці некампетэнтнага дырэктара. Ланцужок фокусаў прафана павялічваўся, урэшце лопнуў — не вынес нагрузкі. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

**Ювэ**

# Ці ведаеце што...

...Палац Браніцкіх у Беластоку, званы Падляшскім Версалем (таму, што падобны да Парыжскага), пабудаваны ў стылі барока. У 1692—1726 гадах быў перабудаваны раз, а потым ужо Ян Клеменс Браніцкі таксама змяніў яго выгляд. У 1920—1939 палац быў сядзібай Ваяводскай Управы. Знішчаны ў 1944 годзе, адбудаваны ў 1946—1955 гадах. Цяпер Медыцынская акадэмія.



*Дарожныя партрэты. На фэсце ў Літвінавічах. Фота В. Рудчыка.*

(Працяг са стар. 1)

## Мы самі можам зрабіць вельмі многа...

само таварыства ў гэтай справе нямнога можа зрабіць, бо не мае адпаведнай колькасці кваліфікаваных інструктараў для дапамогі нашым самадзейнікам, няма ў нашай арганізацыі патрэбных на гэта грашовых сродкаў. Неабходна, каб нам дапамаглі адпаведныя дзяржаўныя ўстановы. Трэба таксама, каб культурна-асветныя ўстановы і арганізацыі больш дбайна апекаваліся нашым аматарскім рухам, уключалі нашыя калектывы ў розныя мерапрыемствы і ўрачыстасці нароўні з іншымі калектывамі.

Затым В. Ласкевіч заўважыла, што праведзены дагэтуль толькі адзін раз конкурс народных музыкаў і музычных калектываў паказаў, як многа захавалася ў нашым асяроддзі колішніх народных мелодый і інструментаў, таму гэты конкурс неабходна абнавіць і шырока папулярызаваць. Чытальніцкія конкурсы — гэта добрая, вельмі карысная форма культурна-асветнай дзейнасці БГКТ і неабходна зрабіць усё магчымае, каб у іх удзельнічала як мага больш людзей, каб да яго прыступілі чытачы з гарадоў Беластока, Варшавы, Гданьска. Фэсты БГКТ надта папулярныя ў нашым асяроддзі і трэба, каб іх праводзілі таксама нашыя беластоцкі і гданьскі гурткі. Няма ў БГКТ шырэйшай працы з дзецьмі, яна амаль абмяжоўваецца навагоднімі ёлкамі. Гэтай дзялянцы трэба прысвяціць больш месца і ўвагі. Ёсць многа іншых форм культурна-асветнай дзейнасці ў нашым асяроддзі, якімі наша Таварыства павінна заняцца, між іншым, такія, як конкурсы народнай вышыўкі, разьбы, жывапісу, вырабаў з саломкі, ганчарства і шэраг іншых.

— У многіх справах мы самі ў блізкім супрацоўніцтве з дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі можам зрабіць вельмі-вельмі многа ў папулярызацыі нашай народнай творчасці для дабра асяроддзя, рэгіёна і ўсёй краіны.

(Працяг са стар. 2)

## „Жанчыны-лепшая частка чалавецтва"

— Так, і не аднойчы. Напрыклад, у карцінах „Тры сястры", „Зялёны сад". Маці заўсёды прыгадваецца мне занятай працай, апанаванай нейкімі нягодамі. Гісторыя бязлітасная для беларускіх жанчын. Але іх жыццёвай сіле можна пазайздросціць. Маці пражыла 81 год. На яе пахаванне сабраліся мастакі, мае сябры. Разумееце, яна была простая жанчына, але тонка разумела людзей, з кожным умела пагаварыць, суцешыць, параіць. Цяпер яе светлы вобраз усё часцей трапляе ў мае роздумы, узрушвае сваёй народнай мудрасцю.

**— „Тры сястры" — адна з нешматлікіх вашых работ, прысвечаных пажылым...**

— Увогуле мне б не хацелася пісаць пажылых людзей. Бо ў час работы я вымушаны варушыць іх мінулае — часта трагічнае, пакутаваць над іх доляй. Вось і „Тры сястры" — мая маці і цёткі — сядзяць за сталом, паглыбіўшыся ва ўспаміны. У кожнай свой лёс, свой характар, але яны з адной сям'і, пражылі век на роднай зямлі. І я ўдзячны ім за душэўную цеплыню, спагадлівасць, любуюся іх спакоем, памяркоўнасцю.

Новая, яшчэ не скончаная карціна адцягвае маю ўвагу ад гутаркі з мастаком. Вайна. Ноч. Поўня. І шасцёра коннікаў-разведчыкаў. Такі просты сюжэт, недапісанае палатно прымушаюць шчымець душу. І ведаю, што сакрэт гэтага не разгадаць. Бо падобнае мучыла мяне перад „Ліставеем". Восень нясе набыткі ці страты? І славутае „Маё нараджэнне" трывожыць памяць высокім, філасофскім зместам, хаця ў п...шае імгненне ўражвае незвычайнае жыццёвае здарэнне — у завейным полі з'явілася на свет малое. Ні хаціны, ні дрэўца навокал. Толькі людзі са зброяй. І праз слёзы спачування і жалю ў мяне прабіваецца радасная ўсмешка. Выжыла дзіцятка. Інакш ці назваў бы Леанід Шчамялёў карціну „Маё нараджэнне"?

**Валянціна Трыгубовіч**

# ТРАГІЧНАЯ РАНІЦА

Тапілец... Хопіць сказаць гэтае слова — і кожны жыхар Лукі, Тарнопаля, Семяноўкі, Ляўкова, ці другіх суседніх вёсак уздыхне ды задумаецца. Малодшыя ведаюць аб гэтым з расказаў, старэйшыя былі непасрэднымі сведкамі.

Ад шашы, што ў Луку, не даязджаючы да вёскі, аддзяляецца палявая пясчаная дарожка і бяжыць у лес. Праехаўшы дзвесце-трыста метраў, дрэвы расступаюцца, даючы месца невялікай палянцы. Тапілец... так завуць гэтае ўрочышча. На сярэдзіне палянкі, абгароджаны плотам, стаіць помнік. Вакол ціха, нікога няма, толькі стаяць, быццам бы вартавыя, стройныя кусты ядлоўца. След па вянках і кветках гаворыць аб памяці сярод жывых. Падыходзім. „Месца асвянцонае крывёй ахвяр гітлераўскіх акупантаў". Далей ідзе пералік прозвішчаў. Чатырнаццаць чалавек, чатырнаццаць маладых людзей ва ўзросце ад шаснаццаці да трыццаці год. Дзесяць з іх — гэта жыхары Лукі, двое з Тарнопаля і дзве грамадзянкі Савецкага Саюза.

Быў 1940 год. У Луку прыехалі дзве дзяўчыны — лекарка Зіна Млечка і акушэрка Рая Шаўчэнка. Заснавалі медпункт.

— Яшчэ, о вунь, тая хата стаіць, дзе яны працавалі. Цяпер там Кася і Васіль Скепка жывуць, — паказваюць вясковыя.

Хвалілі іх па ўсёй ваколіцы. Учынныя былі, добрыя. Паклічуць да хворага ноччу — дык ноччу. Часам і начавалі пры ложку. Некалькі тыдняў, а здавалася, што яны тут і нарадзіліся. Зжыліся, здружыліся.

Пачалася вайна. Медпункт перастаў дзейнічаць, але яны засталіся. Далей неслі медыцынскую дапамогу. Настала раніца 18 жніўня 1941 года. Трагічная раніца, якая назаўсёды пакінула след у людской памяці.

— У нас у Луцэ быў камсамольскі гурток. І немцы, відаць, дакладна ведалі, — гавораць у вёсцы. — Нехта мусіў падказаць, бо як прыехалі... Ааа... — і замаўкаюць.

Лекарка з акушэркай вярнуліся дамоў надосвітку. Прымалі дзіця. Як стаялі, так і леглі. Стома. Але даспаць не давялося. Раніцай вёскай праімчалася дзіўная машына. У Луцэ яшчэ такой не бачылі. Спынілася пры былым медпункце. Мігам сагналі ўсіх вяскоўцаў — ад малога да старога.

— Нехта, мусіць, выдаў, — круцяць галовамі.

Выняўшы падрыхтаваны спісак, хутка адчыталі прозвішчы. Усе камсамольцы. Зачыніўшы іх у машыне, ад'ехалі. Апошнія разышліся па хатах. Але жыццё не пайшло папярэдняй каляінай. На кожным кроку адчувалася, што некага не хапае. Людзі нервова хадзілі з хаты ў хату, размовамі адводзілі душу. Ніхто аднак і не дапускаў думкі, што моладзь не вернецца. І здарылася самае страшнае. Але ў вёсцы яшчэ нічога не ведалі. Не ведалі нават, куды маладых павезлі.

Непадалёк урочышча пастушкі паслі кароў. Бурчанне машын ды пакрыкванне прымусіла іх глянуць у бок Тапільца. З машын выскачылі немцы. Аддзяліўшы ад чатырнаццаціасабовай групкі, траім загадалі капаць роў. Астатнія стаялі побач. І раптам паветрам ускалыхнулі аўтаматныя чэргі. Аднаго пакінулі жывым, Васільчыка Ёзіка, сына Мікіты. Пакінулі, каб закопваў. Нервы аднак не вытрымалі. А можа ўдасца? Але куля дагнала. У нагу. Потым стрэлілі ў голаў. Адбег усяго сто метраў. Відаць было на пяску след. Цягнулі да ямы.

У вёсцы далей нічога не ведалі. Усё яшчэ верылі і маліліся, каб ніхто не спалохаў надзеі. Гэтую страшную вест-

 

**БУГ У АГНІ**




Доўга мы блукаліся па лесе між Слохамі і Турнай, а ў дот пад клічкай „Чорны“ і не трапілі.

— Ён недзе тут недалёка, — гаварыў Пятро Плаксей, стоячы перад густой сцяной маладога лесу, праз які змаглі б прабрацца толькі зайцы і дзікі. — Ад ротнай кухні да „Каменданцкага“, як гэты дот мы называлі, — прадаўжаў ён, — было не больш 200 метраў. Я, бывала, згатоўлю абед, хуценька ўпраўлюся на кухні і бягу на „Каменданцкі“, каб пастраляць. Бо трэба вам ведаць, што там праходзілі баявую падрыхтоўку салдаты цэлай нашай роты. Дот тады быў ужо акружаны лесам, знаходзіўся далекавата ад праязных дарог, можна было свабодна, без боязі, што хтосьці непажаданы нас падгледзіць, наладжваць тут салдацкія вучэнні. А мяне ўсе ведалі ў роце і кожны камандзір дазваляў мне прымаць удзел у занятках, хаця я фармальна і не ўваходзіў у баявы разлік якога-колечы дота. Пачую на кухні, што страляюць, прыбягу, саб'ю адну-дзве рухомыя мішэні і зноў назад да нарыхтоўкі стравы. Іншым разам папрашу ў камандзіра, каб дазволілі мне паглядзець у перыскоп. Гэта я асабліва любіў, так паўзірацца па наваколлі... Усё быццам на далоні, аж за Буг гэты перыскоп сягаў...

— Ну, так, — адазваўся Міхаіл Млынарчук, — але ўсё ж тады лесу такога тут не было...

— Раслі кусты і адзінокія сосны, — паясніў Пятро Плаксей.

Я выцягнуў з кішэні план размяшчэння дотаў трэцяй роты, які прыслаў мне Іван Шыбакоў. Круцілі мы гэтым планам і так, і сяк, але розуму нам не прыбавілася. І адчуваў я, што ўсім нам аднолькава сорамна. Міхаіл Млынарчук у гэтых старонках правёў сваё жыццё, Пятро Плаксей тут служыў і ваяваў, а я... я ж аблазіў амаль усе надбужныя доты, але ў гэтым, у „Чорным“, яшчэ не давялося мне пабываць.

— Я не ведаю, — заявіў Міхаіл Млынарчук, гледзячы на мой план, — я там у планах не вельмі разбіраюся, але мне здаецца, што тут у лесе гэтыя „точкі“ стаяць зусім інакш.

Ён запрапанаваў, каб мы вярнуліся назад у вёску, у Турну, і паўторна пайшлі ў разведку пасля абеду.

— Там мая Любка не можа ўжо нас дачакацца, — сказаў ён. — Усё ў яе выстыгла, прыдзецца паўторна рыхтаваць абед, а часу ў нас зараз малавата, трэба сена сушыць.

Цётка Любка сапраўды найперш нас аблаяла за тое, што так доўга мы прымусілі яе чакаць з абедам, а затым шчыра рассмяялася, калі даведалася, што мы ў лесе заблудзілі і нічога не знайшлі.

— Я б вас да гэтай „точкі“ з закрытымі вачыма завяла, — сказала яна.

— А памятаеце вы, Пятро Пятровіч, — запытаў я Плаксея, — як Любоў Емяльянаўна прыносіла вам у дот прадукты?

— Вядома, што памятаю! Дзве буханкі вяскоavaга хлеба, парадачны кусок тоўстага сала і пакет махоркі... Мы тады ўжо, мусіць, трэці дзень нічога не елі. А па вёсках блукаліся ўжо немцы.

(Працяг на стар. 6)

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# АДКРЫТАЕ ПІСЬМО ДЗЯДЗЬКУ КВАСУ

Паважаны Дзядзька! Найперш шчыра дзякую за прыхільную ацэнку маёй (барані Божа) творчасці. Аднак сёння хачу адгукнуцца на вашы „Два партрэты“. Вы ў іх якраз закранулі тое, што і мне балела, (а цяпер пора, нібы нож па бэбэхах). Я, як і вы, ведаю, што лёс няроўны і людзі няроўныя. Маюць розныя схільнасці. Але калі чалавек хоць крыху хоча быць чалавекам, павінен часам задумацца над сваімі ўчынкамі. Розуму ўсім хапае, ёсць з каго браць прыклад. Але што мы з вамі можам зрабіць, калі ёсць і такія, якія не могуць жыць без кантралёраў, міліцыі, пракуратуры, суда і турмы. XX стагоддзе, а колькі розных грамадскіх адкідаў. Я цэлюся ў тых „патрыётаў“, якія, краіне нічога не даўшы, хочуць даіць яе, быццам дойную карову. Каб падтрымаць вашу думку, прывяду і я некалькі прыкладаў з жыцця хітруноў.

**Першы.** Пасля вайны ён пабудаваў сабе дом і варштат рамонту самаходаў. Цяпер, дасягнуўшы пенсійнага ўзросту, майстэрню перадаў зяцю. Грошай не мае куды дзяваць. Мармуровыя крыжы ставіць. Сам здаровы, як бык, вып'е колькі дасі. А крыж з чорнага мармуру мохам аброс — чысціць трэба. А ён енчыць, што пенсія малая.

**Другі.** Жыве з жонкай і сынам. Мае сталярню і двухпавярховы асабняк. Робіць мэблю. Калі я ў яго спытаў, колькі будзе каштаваць кухонны камплет, ён адказаў, што каля 32 тысяч і што з увагі на шматлікія заказы, зрабіць можа не раней, чым праз паўгода. А сам на пенсіі, бо сталярню „перадаў“ сыну. І плача: ён мусіць утрымаць жонку (пенсія малая!). Ужыў розных хітрыкаў, каб „выклапатаць“ жонцы збавідоўскую (ні за што) пенсію — не выйшла, „пакрыўдзілі“.

Паглядзіш на ўсё гэта і думаеш: дзе чалавечае сумленне, гонар? Толькі давай, дзяры-бяры, абы мне!

Але каб пераканаць добрых, зычлівых людзей, што хітруноў нідзе не любяць, прывяду яшчэ пару прыкладаў.

**Першы.** Здаравенны, але гультай. Цэлымі днямі стаіць на барахолцы і гандлюе рознымі каўнярамі і самаварамі. Менавіта, стаіць, а не сядзіць. А калі ідзе па мяса, то бярэ з сабою палку. Прэцца адразу да прылаўка, быццам нікога ў магазіне і няма. Яго нахабства бязмежнае. Стаяць ля прылаўка двое старых за сальцісонам. Раптам урываецца ў магазін гэты „інвалід“ і да прадаўшчыцы: — Зважце мне вось гэты сальцісон! — паказвае на ўсё, што засталося. Прадаўшчыца без слова кладзе на вагу ўвесь сальцісон. Старыя аспрэчваюць (пане, мы ў чарзе, а вы забіраеце нам з-пад носа!), умешваюся і я (зайшоў па сала). Калі „інвалід“, аблаяўшы ўсіх нас, выйшаў, прадаўшчыца кажа: — Проша панства, гэта ж вядомы на ўвесь пасёлак хам, як вы не баіцеся яго чапаць?

**Другі.** Бегае, бы дваццатка. П'е кожны дзень. Маляр. Аднаўляе людзям кватэры. Ходзіць па пасёлку і глядзіць, дзе што прывезлі. На людзей нават не гляне, падыдзе толькі да прылаўка і лыпае вачыма. Калі прадаўшчыца прыкінецца „невідушчай“, тут жа папракае. „Што, не бачыце мяне?“ І дзяўчына важыць, што мае. Дзеля спакою. А людзі лаюць. Аднойчы, калі прыйшоў чацверты раз па селядцы, амаль не адлупцавалі. Але такому хоць плюй у вочы, адзін чорт.

Хоць і хітруны ў вялікай меншасці, але кроў псуюць. Думаюць яны, што найразумнейшыя. І гэта, на жаль, штодзённасць. І таму нічога з гэтым зрабіць не можам. Не буду тады марочыць вашай галавы гарадскімі справамі. Жадаю вам моцнага здароўя!

**Васіль Петручук**

# КРЫТЫКА НЕ ПАМАГЛА

Пісаў я пра дарогу з Палічнай у Старыну і Бобінку, што варта ёю заняцца. Дарожныя ўлады адказалі: чаго ездзіць у Старыну і Бобінку напрасткі, калі можна ехаць гравейнай дарогаю праз Войнаўку, а што далей... Усё ж ёсць выхад. Вяртаюся да гэтай дарогі. Яна тут была яшчэ пры цары, як успамінаюць тутэйшыя пажылыя людзі, і ёсць. Нават нядрэнная. Людзі ёю ездзяць. Пераважна фурманкамі. Але можна было і самаходам. Неабходна аднак крыху яе адрамантаваць. Маглі б з гэтым справіцца і жыхары тутэйшых вёсак. Можа солтысы склічуць сход і супольна з аднавяскоўцамі абмяркуюць гэта? Што прыдалося б зрабіць? А вось крыху жвіру навазіць у адну-дзве ямы і на пясчаны ўзгорак (летам у сыпкім пяску самаходам не праехаць).

Іншая справа: бярозы. Пісалі мы пра іх. Яны ля гэтай жа дарогі. Паабапал. Прыемны белы бярэзнік. Але ёсць і старыя бярозы. Дзве з іх пакалечылі: абсеклі кару, каб ссохлі. Іншыя, сухія, стаяць і пагражаюць, што некалі ў вібру зваляцца на дарогу. Яны — небяспечныя, могуць некаму прынесці няшчасце... Калі будавалі электралінію, некалькі старых бяроз ссеклі. Але вось лінія праведзена больш як тры гады таму назад, а бярвенні бяроз так і ляжаць у кустах і гніюць. Якое марнатраўства! Таму зноў невыпадкова вяртаемся да дарогі з Палічнай у Старыну і да старых бяроз.

**І. Н.**

## Гародчык цёткі Мальвіны

# Пасля разводу

*Калі навесну бэз цвіце,*
*Цвіце так ясна і з даверам.*
*Гляджу панура і не веру:*
*Не можа быць, што ён цвіце!*
*Чаму купае буйны цвет*
*Штодзень у росах ён бясконца,*
*Чаму яшчэ не гасне сонца,*
*Сусвет не валіцца яшчэ?*
*Ва ўсёй прыродзе ёсць закон:*
*Нішто з нічога не бярэцца,*
*Матэрыя заўсёды вечна,*
*Нідзе не гіне нам нішто.*
*Хаця вучоных я шаную,*
*Тут памыляюцца яны.*
*Каханне дзелася куды?*
*Скажыце мне, шукаць пайду я!*
*Чаму навесну бэз цвіце?*
*Гэта балюча, вельмі дзіўна.*
*Яму не шкодзіць мая крыўда?*
*Чаму навесну бэз цвіце?*

**Цётка Мальвіна**



**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80**

*Анна Кузьміцкая з Новай Волі. На сёлетнім цэнтральным аглядзе заняла III месца сярод салістаў у катэгорыі фальклорнай песні. Фота М. Шаховіча.*

ку прынёс нейкі жыхар з Міклашэва. Ішоў якраз у той час у Слабодку.

— Не ведаю нават, як ён называўся, — гаворыць Сяргей Стоцкі.

Пайшлі адразу. Усе пайшлі. Вакол плямы засохшай на пяску крыві. Ляжалі ў выкапаным рове. На іх пакіданыя бярозавыя палкі. Відаць, білі. Так, білі. Смерць прыйшла да іх цяжка. Ламалі пальцы, выкручвалі рукі. Здзекваліся.



Доўга прыйшлося афармляць, пакуль атрымалі згоду ад нараўкаўскай жандармерыі на пахаванне. Забралі на парафіяльныя могілкі ў Старое Ляўкова. Кожная сям'я ўзяла свайго. Хто пахавае лекарку і акушэрку? Адкопваў і даставаў Стоцкі Іван.

— Рашэнне было хуткае, — гаворыць Сяргей Стоцкі. — Разам мы дружылі, разам хадзілі. Хавала ўся моладзь.

Збілі адну шырокую труну, так каб на дваіх. Былі яны заўсёды разам і цяпер іх не раздзялілі. Пахавалі на могілках у Ляўкове. Мясцовае керамічнае прадпрыемства ўмуравала памятную дошку. Яны і апякуюцца магіламі.

Час — тразвілка жыцця. Дзень па дні людзі ўсё менш гаварылі аб той трагічнай раніцы. Яшчэ толькі паплаквалі сем'і загінуўшых. Фронт перамяшчаўся на захад. Дваццаць першага ліпеня 1944 года вёска была вызвалена.

— Тут недалёка стаяў штаб, — гаворыць Сяргей Стоцкі. — І была ля школы палявая пошта.

Аднойчы на адрас вёскі прыйшоў ліст. На канверце было напісана: „Письмо дать кому-либо из деревни“ Наташа Шаўчэнка шукала сваю сястру Раю. Ішла яна з фронтам. Падала свой палявы адрас. Адказ быў просты: „Забітая 18 жніўня 1941 года“, — напісаў Іван Бірыцкі. І маўчанне аж да 1978 года. Ніякага адказу. Вяскоўцы рабілі намаганні, каб адшукаць некага з сям'і. Няўжо ж усе загінулі, няўжо ж няма нікога з блізкіх... Адгукнуліся толькі ў 1978 годзе. На адрас Івана Бірыцкага прыйшоў ліст, але той ужо пятнаццаць год як не жыве. Пісьманосец аднак арыентаваўся ў справе і перадаў ліст Сяргою Стоцкаму. Наладзілася перапіска. Выявілася, што ў Раі тры сястры і брат.

— Даем запрашэнне, — гаворыць С. Стоцкі. — Пішу, што хутка Луку затопяць і не будзе магчымасці ўбачыць ані помніка, ані тых дарог, якімі яна хадзіла. І ў 1979 годзе першае спатканне. У бягучым годзе прыязджалі ўсе трое.

Не адгукнуўся толькі ніхто з сям'і Зіны Млечка. Няўжо нікога няма? Няма знаёмых, блізкіх?

— Вядома толькі, — гавораць у вёсцы, — што была ў Гомелі, а да прыезду ў Луку працавала ў Свіслачы. Бацька быў машыністам, маці кладаўшчыцай на чыгунцы.

Кронамі дрэў ускалыхнуў вецер, быццам бы ўздыхнуў на ўспамін аб сумным мінулым, аб трагедыі ў Тапільцы.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара



 

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ад Т. былі прысуджаны аліменты на яго няшлюбнага сына С. Сын скончыў рамесную школу, яму ўжо 17 год і ён нідзе не працуе. У прашэнні суда няма ўстаноўленага тэрміну, да якога Т. абавязаны плаціць аліменты. Сын, падбучаны маці, гаворыць, што сталай працы шукаць не будзе, што бацька мае абавязак плаціць яму аліменты, пакуль не споўніцца 24 гады. Як доўга Т. мае абавязак плаціць аліменты?

АДКАЗ: Абавязак утрымоўвання дзіцяці існуе датуль, пакуль яно само не можа самастойна ўтрымацца, што на практыцы абазначае — пакуль не можа само працаваць і зарабляць. Кодэкс працы забараняе даваць працу асобам, якім не споўнілася 15 год і якія не скончылі пачатковай школы. Гэта не значыць, што пасля таго, як дзіцяці споўніцца 15 год і закончыць яно пачатковую школу, бацькі не маюць абавязку ўтрымоўваць дзіця. Дзіця трэба навучыць прафесіі. Таму, калі дзіця вучыцца ў сярэдняй або вышэйшай школе, бацькі абавязаны яго ўтрымоўваць аж да заканчэння вучобы. Граніца ўзросту, да якога абавязваюць аліменты, законам не ўстаноўлена. Калі дзіця вывучыла прафесію і не хоча больш вучыцца, мае абавязак, калі здароўе на гэта пазваляе, распачаць працу, хоць бы не было яму яшчэ 18 год. Таму Т. не мае абавязку плаціць аліменты на сына. Ён павінен падаць у суд, які засудзіў аліменты, заяву з просьбай змяніць рашэнне. Пакуль гэтага не зробіць, судовы выканаўца будзе з яго прымусова спаганяць аліменты.

## Куток практычных ведаў

Як зварыш, так і з'ясі

# З цвятной капустай (калафёрамі)

### ЗАПЯКАНКА

Узяць 2 калафёры сярэдняй велічыні, чвэрць кілаграма макарону, 4 яечкі, 10 дэкаў капчонага бачку, 10 дэкаў жоўтага цёртага сыра.

Памытыя і ачышчаныя ад лісткоў калафёры зварыць у пасоленай вадзе, дадаючы крыху цукру. Асобна зварыць макарон у вялікай колькасці пасоленай вады. Адцадзіць, вымяшаць макарон з падсмажаным дробна нарэзаным бачком і падзеленымі на частачкі калафёрамі. Усё разам палажыць у вогнетрывалую каструльку, змазаную тлушчам і пасыпаную цёртай булкай, заліць збітымі яечкамі, вымяшанымі з цёртым сырам, соллю і перцам. Уставіць у гарачую духоўку і запячы, пакуль запяканка зверху не будзе мець залаты колер. Запяканку можна падаваць з салатай, а запіваць яе — памідорным сокам.

### КУРАНЯ НА АБЕД

Бярэм адно кураня, адно яечка, цёртую булку, соль. На суп: падвойная порцыя маладой валашчыны плюс калафёр, 2—3 лыжкі смятаны, шмат пасечанай зяляніны, макарон, соль. Апрача гэтага, патрэбна будзе галоўка салаты і соус „вінегрэт".

Ачышчанае кураня дзелім уздоўж на дзве часткі, адразаем крылцы, шыйку і цэлы хрыбет. З гэтага варым з валашчынай суп. Паловы кураняці рэжам яшчэ напалову, кожную частку збіваем добра валікам, солім і пакідаем так на 10 мінут. Пасля гэтага мачаем у муку, яечка і цёртую булку і кладзем на моцна разагрэты на патэльні маргарын, смажым з абодвух бакоў мінут 15, пасля чаго спырскваем халоднай вадой, адразу прыкрываем і пакідаем на слабым агні мінут на 10. Порцыі атрымаюцца мяккія і сакавітыя. У кіпячы суп сыплем чатыры лыжкі макарону, дадаем памыты і падзелены на частачкі калафёр, солім і варым пад крышкай яшчэ мінут 15—20. Адставіўшы з агню, уліваем смятану, сыплем зяляніну. Да смажанага кураняці падаем салату, палітую соусам „вінегрэт" з алею, лімоннага соку і солі, а таксама фрыткі з бульбы. На дэсерт падаем нейкую садавіну.

**Гаспадыня**



**По роднай зямлі.** Вёска Аўгустова пад Бельскам. Фота Я. Целушэцкага.

(Працяг са стар. 5)




Дык гэты хлеб і сала дзялілі мы між сабою, быццам святое прычасце... Здзіўляюся толькі, што ты не баялася ісці да нас, — звярнуўся ён да Любкі.

— А чаго мне было баяцца! — адказала яна. — Узяла я кошык і пабегла... Сейсава я найперш спаткала...

Радавы Сейсаў. Ён з нацмэнаў. Так тады называлі жыхароў азіяцкіх рэспублік. Сейсаў, здаецца, быў казахам. Па-руску гаварыў ён слабавата.

— А жартаўнік які з яго! — кажа цётка Люба. — Прыдзе, бывала, да нас на дзявочыя вечарынкі, а мы зараз яго просім, каб нам паспяваў, бо ведаем, што будзе з чаго пасмяяцца...

І Сейсаў спяваў. Ладкаваўся пасярэдзіне хаты, проста на падлозе, падцягваў пад сябе ногі і, ківаючыся ўсім целам у рытм сваёй мелодыі, спяваў штосьці доўга і задушэўна, спяваў на нейкай чужой мове, якой дагэтуль яны, хлопцы і дзяўчаты са Слохаў, з Вулькі Надбужнай і Турны, не чулі і, вядома, не разумелі. Толькі па яго вачах, па твары, уквечанай усмешкай, па рухах яго рук маглі здагадацца, што гэты салдат, які завітаў на Буг з далёкага краю, спявае пра штосьці прыгожае і важнае. Глядзелі на яго і спачатку, як дзеці, проста хіхікалі, так незвычайна для іх усіх паводзіў сябе гэты чалавек. Яго, аднак, гэты смех зусім не бянтэжыў і ён цягнуў сваю песню.

— Сейсаў, пра што ты спяваеш? — пыталі яго дзяўчаты.

— Мая пра любоў спявае, — зусім сур'ёзна адказваў ім салдат і за кожным разам яшчэ дабаўляў: — Ты, ты, і ты будзеш мая жена.

Люба Млынарчук яшчэ і сёння смяецца, калі пра гэта ўспамінае.

— З гэтага, — кажа яна, — мы найбольш смяяліся, бо ніяк не маглі зразумець навошта яму адразу аж чатыры дзяўчыны ў жонкі.

Салдат Сейсаў (інакш яго ніхто не называў) цярпліва, але коратка ім паясняў:

— Нам трэба чатыры жена.

— А ты з адной не справішся, — падсмейваліся з яго мясцовыя кавалеры.

— Ну, то я гэтага Сейсава якраз спаткала, калі занесла ў бункер прадукты, — кажа цётка Люба, а яе госць, Пятро Плаксей, дабаўляе:

— Ён стаяў тады на варце. Убег, памятаю, у дот, і пры ўсіх салдатах на цэлае горла крычыць: *„Лаксей! Луба прышол! Чакае за дотам!"*

— А што з ім? — запытаў я, але Плаксей не ведаў пра лёс гэтага чалавека.

— Са мною яго не было, — кажа Пятро Плаксей. — І я няўпэўнены, ці трапіў ён у палон, ці загінуў тут у доце... Са мною да самага канца знаходзіўся ў палоне іншы салдат трэцяй роты — **Андрэй Ісакоў.** Мы разам служылі і ваявалі. Ён быў камандзірам узвода, а я кухарам. І вось пад канец вайны, недзе 27 або 28 красавіка 1945 года, знаходзіліся мы ў лагеры Інкендорф каля Растока. Гэта на поўначы Германіі, на Балтыйскім моры. Набліжаўся фронт. Наша ахова пачала рыхтавацца да эвакуацыі лагера. Палонныя рашылі наладзіць пабег. І вось стаім мы, памятаю, гатовыя ўжо да маршу. З бараку камендатуры выходзіць немец. І тады Андрэй Ісакоў адным скокам дападае да яго, валіць на зямлю і абяззбройвае. І мы пабеглі. Андрэй Ісакоў з нямецкім аўтаматам, і Грыша Перапеліца з голымі рукамі. Выскачылі мы на шашу, ідзем, а тут насустрач нам эсэсаўцы. *„Хаваемся!"* — гавару я, але Ісакоў запусціў чаргу з трафейнага аўтамата. Стаіць на шашы ў поўны рост і страляе да немцаў, рады, што дабраўся да зброі, што можа помсціць за сваю нядолю... Тут яго і скасілі, бядняну... З Валагды быў ён. Можа такім чынам нас ад смерці выратаваў? Хто яго ведае... — уздыхнуў Пятро Плаксей

А я ўспомніў, што нам пара ізноў выбрацца на пошукі дота „Чорнага". Клікалі нас цені загінуўшых там салдат і афіцэраў. Аб гэтым, аднак, ужо праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

## Фальклор

# ЖАРТОЎНАЯ



*Ой, ішоў я до дівчыны чэрэз тры городы —*
*вытоптаў я балабоны, наробіў я шкоды,*
*вытоптаў я балабоны, наробіў я шкоды.*
*Зайшоў я до хаты, кажут жэ мніе сіесті —*
*наварылі балабонуў, дают жэ мніе есті,*
*наварылі балабонуў, дают жэ мніе есті.*
*Я на тые балабоны скрыва поглядаю —*
*на поліці — варэныці, я на іх зважаю,*
*на поліці — варэныці, я на іх зважаю.*
*Стало прыміеркаці, поляглі все спаті,*
*я за тые варэнікі — та й драла із хаты,*
*я за тые варэнікі — та й драла із хаты.*
*Біег чэрэз пудворок, біег чэрэз городы —*
*запутавсе ў гарбузеню, наробіў я шкоды,*
*запутавсе ў гарбузеню, наробіў я шкоды.*
*Прыбігаю до корчомкі: „Добры вэчэр, людэ!*
*Выпутайтэ з гарбузеня — гарнец водкі будэ!*
*Выпутайтэ з гарбузеня — гарнец водкі будэ!*

Ад Раісы Чэрнякевіч, 1896 г. нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў 11 чэрвеня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, хлопец мой у войску, ужо восенню вернецца, а ў мяне бяда. Я цяжарная. Яшчэ перад войскам мы хадзілі. Генік мне вельмі падабаўся. За ім дзяўчаты бегалі, бо высокі, прыстойны, вясёлы, а я цешылася, што выбраў ён мяне. Але і непакоілася, каб якая яго ад мяне не адбіла. Бо было такое, што на забаву пайшлі мы разам, гулялі, а потым Генік выйшаў з калегамі. Не было яго даўжэйшы час і вярнуўся з дзяўчынай. Хаця бачыў, што я стаю, ён з той дзяўчынай танцаваў некалькі танцаў. Мне было вельмі прыкра, я нервавалася, але як толькі вярнуўся, усё як рукой адняло, я была шчаслівая, што ён вярнуўся.

Старалася дагадзіць ва ўсім, каб толькі мець яго пры сабе. Але пайшоў у армію. Далёка. Сумна. Прыязджае нячаста. Аднойчы прыехаў, дык толькі на хвілінку да мяне ўскочыў і пабег, бо ж сябры чакаюць. І толькі на развітанне прыйшоў. А апошні раз дык я шчаслівая была, бо ён амаль увесь водпуск у мяне прабыў. І начаваў у мяне. Але мая радасць бадай закончылася. Ад тае пары я цяжарная. Я нікому не гаварыла. Але ўжо трэці месяц мінуў і гаспадыня, у якой я жыву ў горадзе, бо тут працую, прыкмеціла, што я змянілася (я і дрэнна сябе адчувала) і... папаўнела. Яна добрая жанчына. Пацяшала, бо я нервуюся вельмі і часта плачу. Кажа сказаць бацькам і Геніку н[illegible] пісаць. Страшна мне і бацькоў, а Геніку баюся сказаць, бо яшчэ пакіне. Сэрцайка, ты ж усім раіш, памажы і мне.

Ірэна з Б.

Ірэна! Ну так, нарабіла ты сабе клопатаў, гэта праўда. Але ўжо нічога не зробіш, і плач, і нервы твае толькі яшчэ дзіцяці зашкодзяць. Супакойся. Ды бацькам паведамі і Геніку напішы. Як ён гэта ўспрыме — невядома. Бо не надта ён сур'езна сябе да гэтай пары паводзіў. А твая празмерная паслухмянасць, бескрытычнасць толькі спрыялі яму. Ну, цяпер справа сур'ёзная, можа і ён успрыме яе сур'ёзна. Столькі ж ужо ў войску прабыў, дык можа спаважнеў. Войска ж, як кажуць, школа жыцця. І шлюб, хаця яшчэ хлопец і ў войску, а ўзяць можна. Але калі адмовіцца — нічога не зробіш. Прыдзецца ўвесь цяжар дзявочай лёгкадумнасці на свае плечы ўзяць.

**Сэрцайка**

## Вер-не-вер

Дарагі Астроне, прашу, адгадай мне сны. Сніцца мне, што я на дзень свайго нараджэння атрымала ад хлопца, з якім хаджу, рыжыя рукавічкі і пазалочаны ланцужок. Я не хацела браць, кажу: забірай, але ён не забраў, і ўсё гэта засталося ў мяне. Мне гэты сон сніўся ў тую ноч, калі ўдзень быў мой дзень нараджэння; але я ад гэтага хлопца нічога не атрымала.

А на другі раз мне снілася, што я з гэтым хлопцам з адной талеркі ела будынь. І ў гэтым сне, помню, ён мне даваў дзве півоніі, прыгожыя, чырвоныя. А я яму кажу: „Трэба было даваць раней, а цяпер, дык я не хачу" — і не ўзяла.

Што могуць абазначаць гэтыя мае сны?

А маёй маме прыснілася, што яна дала мне залатое абручальнае кальцо і яшчэ адно залатое кальцо. І кажа, каб я занесла гэта сваёй гаспадыні. Што ж абазначае сон маёй мамы?

Яўгенія

**Яўгенія!** Магу табе сказаць, каб не пераймалася. Не атрымала падарунка ад хлопца — то атрымаеш ад каго іншага. Атрымліваць ува сне падарунак абазначае для цябе нейкі прыбытак. Іншая справа, калі б ты дарыла нешта камусьці. Тады абазначала б гэта для цябе непрыемнасць. У другім тваім сне ты бачыла чырвоныя кветкі, якія маглі б абазначаць для цябе радасць. Чаму ж ты такая ганаровая, што іх не ўзяла? Што датычыць сну тваёй мамы, дык здаецца, што будуць у вас нейкія непаразуменні з суседкай.

**Астрон**

